# Будзем слаць лісты па-новаму

## *З 1 ліпеня ў Беларусі змяняецца парадак падпісання канвертаў*

У правай ніжняй частцы канверта трэба пісаць адрас, каму вы адпраўляеце пісьмо, а ў левай верхняй частцы — свае каардынаты. Адрас патрэбна пісаць таксама ў новым парадку. У першым радку пішацца прозвішча, у другім — нумар дома, кватэры і вуліцу, у трэцім — горад, а потым назву краіны. На пісьмах у краіны СНД і далёкага замежжа назва краіны пішацца на беларускай мове, а таксама ў лацінскім варыянце альбо на мове краіны атрымальніка.




Такім чынам, беларуская пошта далучыцца да агульных стандартаў Сусветнага паштовага саюза. У сувязі з тым, што ў наяўнасці застаецца вялікая колькасць канвертаў старога ўзору, тэрмін іх выкарыстання прадоўжаны да 1 лістапада. Аднак такі канверт прыгодны толькі для карэспандэнцыі ў межах Беларусі.

На канвертах пакуль што застанецца звычны індэкс з шасці лічбаў (плануецца, аднак, перайсці на пяцізначны паштовы код). Канверты атрымаюць розныя стандарты — на палову ліста з ваконцам, з малюнкам і г.д. Да гэтага часу былі толькі тры стандарты, цяпер іх будзе значна болей. Спецыяльныя паштовыя канверты будуць выпускаць для калекцыянераў. Акрамя таго некаторая частка канвертаў будзе самаклейкая, а гэта азначае, што не давядзецца выкарыстоўваць язык. Вырабляюць канверты на Барысаўскай папяровай фабрыцы, а таксама іх выпускам займаюцца розныя прыватныя фірмы.

Новы парадак напісання адрасу звязаны з тым, што ў свеце пры сартыроўцы пісем выкарыстоўваецца штрыхавое кадзіраванне. Беларускія паштавікі спадзяюцца на дапамогу Сусветнага паштовага саюза, каб перайсці на спрошчаныя сусветныя стандарты апрацоўкі карэспандэнцыі. «Індэкснае» абсталяванне, якім цяпер карыстаецца беларуская пошта, значна састарэла.

Як паведаміла начальнік аддзела арганізацыі і эксплуатацыі дзяржаб'яднання «Белпошта» Надзея Грыц, нядаўняе павышэнне тарыфаў на паштовыя адпраўленні не звязана з новым парадкам афармлення канвертаў. Нагадаем, што з 20 чэрвеня пісьмо па краіне каштуе 1.300 рублёў, у СНД, а таксама Літву і Латвію 2.900 рублёў (АВІЯ — 3.300 руб.), у краіны далёкага замежжа, а таксама ў Эстонію і Азербайджан — 4.400 руб. (АВІЯ — 7.500).

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## СПОРТ

**СТРАЛЬБА: «КЛАСІК» МАРТЫНАЎ**

Класікі ёсць не толькі ў літаратуры і жывапісу, але і ў спорце. У кулявой стральбе да такіх можна прылічыць Сяргея Мартынава. Зусім нядаўна ён паўтарыў абсалютны сусветны рэкорд у стральбе лежачы з малакалібернай вінтоўкі — 600 з 600. А цяпер вось стаў у Фінляндыі чэмпіёнам Еўропы ў стральбе з трох палажэнняў (па 40 выстралаў лежачы, з калена, стоячы) — так званым малакалиберным стандарце, — выбіўшы 1.179 ачкоў з 1.200.

**ФУТБОЛ: «ДЫНАМА-93» РВЕЦЦА Ў ЕЎРОПУ**

Футбалісты мінскага «Дынама-93» правялі ў Польшчы другі матч Кубка *UEFA-Intertoto* з «Паланіяй» (Замосць). Матч атрымаўся двухбакова вострым. Але ў першым тайме мяч толькі аднойчы пабываў у варотах — пашанцавала гаспадарам. Пасля перапынку мінчане правялі серыю скарасных атак, лідэрамі якіх былі Антуан Маёраў, Алег Аўгуль і Андрэй Турчыновіч. Два імклівыя рэйды Маёрава па леваму флангу скончыліся нацэленымі пасамі ў штрафную, дзе імі па-майстэрску распарадзіліся Турчыновіч і Аўгуль — 2:1. Поспех раскруцілі Дзмітрый Акуліч і той жа Турчыновіч. 4:1 — выдатная перамога! Нагадаем, што тыдзень таму мінчане дома выйгралі ў галандскага «Херэнвена» — 1:0.

У гэтай жа групе галоўны фаварыт германскі «Дуйсбург» пачаў з перамогі над дацкім «Ольбаргам» — 2:0. Ключавой, відаць, стане сустрэча ў Мінску ў суботу, дзе сустрэнуцца «93-е» і «Дуйсбург».

| | Г | М | А |
|---|---|---|---|
| 1. «Дынама-93» | 2 | 5-1 | 6 |
| 2. «Дуйсбург» | 1 | 2-0 | 3 |
| 3. «Ольбарг» | 2 | 2-2 | 3 |
| 4. «Херэнвен» | 1 | 0-1 | 0 |
| 5. «Палонія» | 2 | 1-6 | 0 |

# Паспрабуйце вушкі Холіфілда!

**«БЕЛШЫНА» ПАКАЦІЛАСЯ НАПЕРАД**

Мінска-магілёўскія разборкі прынеслі поспех сталічным майстрам: «Дынама» (Мінск) — «Днепр» — 3:1, «Тарпеда-Кадзіна» (Магілёў) — «Тарпеда» (Мінск) — 0:2.

Пасля 12 тураў перавага бабруйскай «Белшыны» відавочная:

«Белшына» — 31 ачко, «Дынама» (Мінск) — 25, «Лакаматыў-96» (Віцебск) — 24, МВКЦ (Мазыр) — 23, «Дынама-93» (11 гульняў) — 21, «Днепр» — 19, «Дынама» (Брэст) — 18, «Нёман» (Гродна) — 16 (11 гульняў), «Нафтан-Дэвон» (Наваполацк) — 15, «Атака» (Мінск) — 15, «Камунальнік» (Слонім) — 12, «Тарпеда» — 12, «Тарпеда-Кадзіна» — 10, «Трансмаш» (Магілёў) — 8, ФК Маладзечна — 8, «Шахцёр» (Салігорск) — 3.

**БЕЗ СУМНЕВУ — БРАЗІЛІЯ**

У паўфіналах Кубка Амерыкі зборная Бразіліі разграміла зборную Перу — 7:0 (па два мячы забілі чэмпіёны свету Рамарыё і Леанарда), а гаспадары турніру — балівійцы — выйгралі ў мексіканцаў — 3:1.

У матчы за трэцяе месца Мексіка нанесла яшчэ адзін удар Перу — 1:0. А фінал прынёс чаканую перамогу чэмпіёнам свету — 3:1. Галы пераможцаў на рахунку Дэнілсона, Раналда і Зэ Рабэрта.

**ЗЕЛЕНЬ СПЕЕ**

Маладзёжны чэмпіянат свету ў Малайзіі выйшаў на фінішную прамую. Квартэт мацнейшых склалі каманды трох кантынентаў — зборныя Аргенціны і Ірландыі, Уругвая і Ганы. У чвэрцьфінале аргенцінцы перадолелі супраціўленне бразільцаў — 2:0.

**ТАЙСАН КУСАЕЦЦА**

Матч-рэванш за званне чэмпіёна свету па боксе сярод цяжкавагавікоў-прафесіяналаў паміж уладальнікам тытула Эвандэрам Холіфілдам і прэтэндэнтам Майкам Тайсанам быў спынены пасля трох раундаў у сувязі з дыскваліфікацыяй прэтэндэнта. У другім Тайсан укусіў Холіфілда за правае вуха, пасля чаго быў папярэджаны, што ў выпадку паўтарэння такіх дзеянняў ён будзе дыскваліфікаваны. Тым не менш у трэцім раўндзе Майк зноў укусіў Эвандэра, на гэты раз ён адгрыз паўдзюйма левага вуха. Рэферы слова стрымаў — перамога прысуджана Холіфілду. Пасля гэтага вердыкту ў зале пачалася патасоўка паміж прыхільнікамі баксёраў, якая перакінулася на вуліцы Лас-Вегаса. А кавалачак вуха падабраў адзін балельшчык і аддаў яго пацярпеламу.

**«ФОРМУЛА-1»: ПАЎКРУГЛАЯ ЛІЧБА ШУМАХЕРА**

«Гран-пры» Францыі ў Маны-Курэ заваяваў Міхаэль Шумахер. Гэта яго чацвёрты поспех у гэтым сезоне і 25-ы за ўсе гады. Міхаэль, у адрозненне ад большасці канкурэнтаў, не стаў у час дажджу мяняць шыны. Ён рызыкаваў, ледзь не вылецеўшы з трасы, але фартуна яму ўсміхнулася — дождж скончыўся. Услед за лаўрэатам фінішавалі Хайнц-Харальд Фрэнтцэн («Уільямс»—«Рэно») і Эдзі Ірвайн, партнёр Міхаэля Шумахера па стайні «Ферары». Жак Вільнёў («Уільямс») аказаўся чацвёртым.

**Лідзіруе па-ранейшаму Шумахер-старэйшы — 47 ачкоў.** Вільнёў яму саступае ўжо 14 балаў. Фрэнтцэн — 19 і Ірвайн — 18 відавочна адсталі. У Кубку канструктараў наперадзе «Ферары» — 55 ачкоў і «Уільямс»–«Рэно» — 52.

**ТЭНІС: ЗВЕРАВА І БАРАБАНШЧЫКАВА — ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ**

На Уімблдонскім турніры пасля працяглых дажджоў выглянула сонца. Але яно не парадавала беларусак. Наташа Зверава прайграла расіянцы Алене Ліхаўцовай адкладзены матч першага круга — 2:6, 2:6. З такім жа лікам Вольга Барабаншчыкава саступіла першай ракетцы свету Марціне Хінгіс з Швейцарыі.

**ВЫХОДЗЯЦЬ З КОМЫ**

Прабыўшы больш за два тыдні ў каматозным стане, хакеіст «Дэтройт Рэд Уінгз» Уладзімір Канстанцінаў і масажыст гэтага клуба Сяргей Мнацаканаў паступова выходзяць з яго. Так, Канстанцінаву адключылі сістэму штучнага дыхання — запрацавалі лёгкія. Аднак гаварыць аб выхадзе з крызісу яшчэ рана.

**ШАШКІ: «МІНСК-97»**

У гросмайстарскім турніры традыцыйнага шашачнага фестываля «Мінск-97» пасля 4 тураў наперад выйшлі чэмпіён Еўропы Аляксандр Георгіеў з Расіі і міжнародны майстар з Мінска Аляксандр Булатаў — па 5 з 8.

**ЧЭМПІЁН ТРЫМАЕ КЛАС**

Чэмпіён Алімпійскіх гульняў 1992 г. па веславанні на байдарках і каноэ магілёўскі спартсмен Аляксандр Маякоў атрымаў бронзавы медаль на дыстанцыі ў 200 метраў сярод адзіночак на другім этапе Кубка свету, што прайшоў у венгерскім горадзе Сегед. А потым ён і сябры па камандзе ў спаборніцтве каноэ-чацвёрак на такой жа дыстанцыі занялі 2 месца.

**Сямён ПЛОЦ**

# Дапамога з Гладбека

600 маламаёмных жыхароў Мазыра атрымалі вопратку абутак, дасланыя жыхарамі нямецкага горада Гладбек.

Гуманітарны груз у Мазыр на гэты раз прывезлі з Германіі кіраўнікі дабрачыннай групы «Бацькоўская ініцыятыва Чарнобыль» муж і жонка Юрген і Эдэльтраўд Катцэўскі. Вось ужо на працягу сямі гадоў гэтыя людзі прыязджаюць у Мазыр і прывозяць у якасці гуманітарнай дапамогі медыкаменты, прадукты харчавання, вопратку, дзіцячыя цацкі.

Цікава, што адзін з сяброў дабрачыннай групы Эрых Хамель — сам інвалід, але падчас вясновай місіі тысячу кіламетраў нялёгкай трасы да Мазыра ён самастойна пераадолеў на аўтамабілі з ручным кіраваннем.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Гомельская патэнцыя

Паміж Савецкім раёнам Гомеля і італьянскай правінцыяй Патэнца падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве і ўстанаўленні пабрацімскіх сувязяў.

Дакумент прадугледжвае развіццё двухбаковых адносінаў у галіне эканомікі, культуры, медыцыны і адукацыі. Асобна агаворваецца дапамога італьянскай правінцыі ў арганізацыі аздараўленчага адпачынку дзяцей, якія жывуць у Савецкім раёне Гомеля.

*БелаПАН*

# Сёлета Бабруйск таксама адзначае юбілей

## *У мінулыя суботу-нядзелю Бабруйск адсвяткаваў сваё 610-годдзе*

Горад на Бярэзіне ўпершыню ўзгадваецца ў летапісах пад 1387 годам. Быў цэнтрам воласці, меў Магдэбургскае права. У пачатку XIX стагоддзя тут пабудавалі крэпасць, большая частка якой захавалася да сённяшняга дня. У Бабруйску быў адзін з цэнтраў дзекабрысцкага руху, тут меркавалася арганізаваць паўстанне супраць царскай улады. План быў распрацаваны С.Мураўёвым-Апосталам і М.Бястужавым-Румінымм, але не быў падтрыманы астатнімі.

У гады Другой сусветнай вайны тут адбылася аперацыя, вядомая пад назвай «Бабруйскі кацёл». Войскі Краснай Арміі здолелі акружыць 40-тысячную фашысцкую групоўку і ліквідаваць яе. Сёння Бабруйск — адзін з буйных беларускіх гарадоў з насельніцтвам больш за 250 тысяч чалавек.

У дні свята ў горадзе адчынілі ў новым будынку краязнаўчы музей і склалі вянкі да таго, хто, на думку гарадскога кіраўніцтва, найбольш спрычыніўся да гісторыі горада, — да помніка Леніну. Адбылося шэсце ветэранаў і канцэрты. Але, бадай, найгалоўнейшай падзеяй гэтых дзён стала адкрыццё новай спартыўнай залы, якая перададзена мясцовай школе гімнастыкі — лепшай у Беларусі. З яе выйшла шмат чэмпіёнаў свету, Еўропы, краіны. Некаторыя з іх выступілі на адкрыцці перад гледачамі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Унук шукаў і знайшоў дзеда, салдата Вермахта, пад Быхавам

## *З 1994 года немец Пітэр Хілд шукаў магілу свайго дзеда Фрыдрыха-Карла Шутца ў Беларусі*

Ён ведаў, што дзед загінуў і быў пахаваны ў гады апошняй вайны ля вёскі Красніца Магілёўскай вобласці. Але вёсак з такой назвай было некалькі. У Пітэра захоўваўся ваенны здымак, на якім сфатаграфаваная магіла дзеда. Здымак надрукавала адна з нямецкіх газет, і мясціны на ім праз 50 гадоў пазнаў другі салдат, што ваяваў тут. Ён і паведаміў — шукайце дзеда ў Быхаўскім раёне.

На працягу трох гадоў прыязджаў у Беларусь Хілд і займаўся раскопкамі. У першы год знайшлі вялізную брацкую магілу, дзе ляжалі парэшткі 857 забітых у тую вайну жыхароў быхаўскай вёскі Красніца. Магілу ўпарадкавалі і паставілі два чорныя крыжы — праваслаўны і каталіцкі. У мінулым годзе знайшлі яшчэ адно месца, дзе ляжалі чалавечыя парэшткі. Сярод іх Пітэр Хілд урэшце ўбачыў сляды дзеда — Фрыдрыха-Карла Шутца. Быў знойдзены іменны медальён і нават гумавыя боты, што жонка даслала мужу ў далёкім 42-м. Магілу таксама ўпарадкавалі, труну з парэшткамі дзеда Хілд адвёз дадому і нядаўна паставіў там яму помнік.

А пасля гэтага Пітэр Хілд вырашыў прафесійна заняцца ваеннай гісторыяй і паступіў вучыцца ва універсітэт.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 34.420
Нумар падпісаны ў друк 30.06.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 322